Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 5 (59) Нядзеля, 1-га Лютага 1925 г. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стар. — 15 гр. за радок пэтыту: у тэксьце — 10 гр. на апош. стар.— 5 гр.

АБВЕСТКА.

## Настаўнікі-беларусы,

якія зарэестраваліся ў Т-ве „Прасьвета", жадаючы паступіць на курсы, скончыўшыя Настаўніцкі Інстытут, Вучыцельскую Сэмінарыю, або маючыя званьне дамовага ці пачатковага настаўніка народных (а не царкоўна-прыходзкіх) школ, **павінны да 5-га лютага** г. году прыслаць у Т-ва „Прасьвета" (Wilno, ul. Ludwisarska, 4) дакумэнты **аб настаўніцкай адукацыі і ня менш**, як 2-х гадовай настаўніцкай практыцы.

*Прэзыдыум Бел. Т-ва „ПРАСЬВЕТА".*

# Школьнае пытаньне.

Задача стварэньня беларускіх школ настолькі няпростая, што вымагае вялікае натугі ўсіх нацыянальных нашых культурных сіл, каб дасягнуць яўнага позытыўнага рэзультату.

Што датычыць труднасьцяў гэтак сказаць адміністрацыйнага характару, як напрыклад незацьвярджаньне ўладамі тых ці іншых беларусаў-кандыдатаў у настаўнікі, тарможаньне валаснымі ўладамі пытаньня аб засьведчаньні подпісаў бацькоў, якія жадаюць для сваіх дзяцей роднае беларускае школы, дык тут справа не настолькі цяжкая, каб з часам падобныя труднасьці ухіліць шляхам легальнае, але ўпартае барацьбы за сваё законнае права.

Бо прадстаўнікі дзяржаўнае польскае адміністрацыі мусяць быць паслухнянымі да законаў Польскае Рэспублікі.

Іншая рэч труднасьці характару эканамічнага, матар'яльныя труднасьці ў тым выпадку, калі напрыклад беларускія сяляне дамагаюцца беларускіх школ прыватных, цяжар утрыманьня якіх падае на бацькоў вучняў поўнасьцю.

Зруйнованае войнамі беларускае сялянства ня ўсюды і незаўсёды мае сілу ўзяць на свае мужыцкія плечы гэты цяжар. Але-ж беларускае насяленьне, якое нясе падатковыя павіннасьці гэтак сама, як і насяленьне пануючай нацыянальнасьці, мае бязумоўнае права на *дзяржаўныя* беларускія школы для беларускіх дзяцей, права санкцыянованае дзяржаўнаю ўладаю ў пэўных законах.

Якія-б ні вымагаліся фармальнасьці, што абварункоўваюць спосаб рэалізацыі гэтага права, беларус не павінен над імі спыняцца, павінен прарабіць усё, што трэба, каб права сваё на школу зьдзейсьніць. Вымагаліся ад нашага сялянства прыгавары аб школах і яны сялянствам рабіліся, цяпер вымагаецца ад кожнага бацькі (маці ці праўнага апякуна) шкаляра складаць (кожнаму асабіста) дэкляратыю да Школьнага Інспэктара аб патрэбе школы з роднаю выкладовао мовао—і гэта сялянствам нашым таксама будзе рабіцца.

Трэба, аднак-жа, памятаць, што школам патрэбны й настаўнікі, правы якіх займацца сваею даваеннаю працаю гэтак сама абварункована законам. Таго, што беларус працаваў у школе, як настаўнік, падчас расейскага панаваньня яшчэ мала, патрэбна дадатковая навуковая кваліфікацыя, згодна з законамі Польскае Рэспублікі, грамадзянінам якое ён цяпер зьяўляецца воляю лёсу.

І вось дзеля гэтага, прыходзіцца пачынаць нашу школьную справу з падгатоўкі настаўніцкіх сіл, пачынаць з тых настаўніцкіх курсаў, аб якіх ужо гэтак шмат гаварылася і адкрыцьцю якіх стаяць на перашкодзе толькі фармальна-тэхнічныя труднасьці, якія разрашацца ў працягу бліжэйшых тыдняў. І першы пропуск (праўда вельмі абмяжованага ліку) настаўнікаў-беларусаў праз курсы, якія арганізуе Міністэрства Прасьветы, мае адбыцца да пачатку будучага (1925—1926) школьнага году.

Польскае законадаўства саўсім не спамінае пра настаўніцтва былых расейскіх царкоўна-прыходзкіх школаў, як пра недакваліфікованае для працы ў цяперашніх варунках, гэта значыць, што кожны, хто быў настаўнікам царкоўна-прыходзкай школы, калі-б захацеў быць настаўнікам цяпер, дык мусіць здаваць поўны, а не дадатковы, экзамен на настаўніка. Дадатковы экзамен—з полёністыкі й пэдагогікі мусіць трымаць настаўнік, які мае званьне дамовага ці пачатковага настаўніка былых расейскіх народных школ міністэрства народнае прасьветы. Скончыўшыя вучыцельскія сэмінары і інстытуты могуць лічыцца ў Польшчы кваліфікованымі дзеля настаўніцкае працы толькі тады, калі яны здадуць экзамен з полёністыкі: польскае мовы, гісторыі Польшчы і геаграфіі Польшчы.

Прыходзіцца толькі пашкадаваць, што закон аб настаўніцкай кваліфікацыі не ахапляе сабою настаўніцтва царкоўна-прыходзкага, якое пры больш шырокай пастаноўцы беларускага школьніцтва гэтак сама магло-б быць выкарыстана хаця ў тэй сваёй часьці, якая мела ў мінулым шматгадовую настаўніцкую працу.

Тут ужо трудна што парадзіць, бо патрэбна новэлізацыя закону і падняць аб гэтым пытаньне зьяўляецца абавязкам тых, хто да гэтага прызваны.

Ня наша, не беларусаў віна, што ўсясільныя Пабеданосцавы ці Саблеры дарэмна стараліся ўкараніць у народнай душы прынцыпы свайго казённага „праваславія, самодержавія" и *русской* народнасьці шляхам падмены адзінага народнага школьніцтва сваімі „синодальными" школкамі...

Закон 27 траўня 1919 г. аб настаўніках публічных пачатковых школаў (Dz. Ust. R. P. № 44, poz. 311) на аснове якога мы лічалі вышэйсказанае аб настаўніцкай кваліфікацыі, навет вытлумачаны цыркулярам Міністэрства Рэлігіяў і Прасьветы 4 траўня 1923 г. № 4213/I ў тым сэнсе, што настаўнікаў былых царкоўна-прыходзкіх школ трэба лічыць некваліфікованымі, пакалькі не здалі яны поўнага экзамену для чынных настаўнікаў.

Бяручы ўсё вышэйсказанае датычна браку кваліфікованага настаўніцтва, робіцца зразумелым труднасьці хуткае рэалізацыі нармальнага нашага школьніцтва, прадбачанага правам.

Гэта яшчэ ані ня значыць, што будаваньне нашага школьніцтва немагчыма, бо справа пастаноўкі яго на моцны грунт забясьпечыць сабою магчымасьць яго далейшага разьвіваньня.

# Палітычны агляд.

Увагу палітычнага сьвету зьвяртае на сябе ўнутраны бяскроўны дзяржаўны пераварот у **Нямеччыне**, таму што стварэньне правага монархічнага кабінэту і рэспубліканскай Нямеччыне інач**а**й, як палітычным пераваротам, назваць нельга. Гэткага рэакцыйна-правага кабінэту, як урад Лютэра, Нямеччына ня мела навет пры імпэратары Вільгэльме пасьля «жалезнага канцлера» Бісмарка. Наколькі кур'ёзным зьяўляецца чыста монархічны кабінэт у рэспубліканскай Нямеччыне сьведчыць той факт, што ў яго склад уваходзіць міністар дзяржаўнай гаспадаркі Нэгаус, які ў свой час быў звольнены з дзяржаўнае службы за тое, што адмовіўся злажыць прысягу ў вернасьці рэспубліканскай конституцыі. І цяпер гэткі «рэспубліканец» будзе прадстаўляць сабою міністра рэспубліканскага ўраду.

Пэўна, што ніхто за граніцай і не памыляецца ў ацэнцы цяперашняга нямецкага кабінэту Лютэра, як і таго, што пануе, палітычнага настрою ў Нямеччыне. Усім вядома, што лістападная рэвалюцыя ў Нямеччыне была ні чым іншым, як няўдаўшымся палітычным манэўрам у рэзультаце зацягнуўшайся вайны. Няспадзяваўшыся на вільсонаўскі мір без пераможцаў і пераможаных, без контрыбуцыяў на праве самазначэньня народаў, вы-

казаны ў яго вядомых 14-цёх пунктах, некаторыя з нямецкіх палітыкаў сьвядома ўдалі з сябе на нейкі час рэспубліканцаў, дзеля таго, што Амэрыка й саюзьнікі не хацелі весьці перагавораў з імпэратарскім ўрадам. Немцы заўважылі сваю памылку толькі тады, калі пасьля разьбраеньня іх прымусілі падпісаць вэрсальскі трактат, і цяпер апіраючыся на гэты трактат вымагаюць выплаты ваенных адшкадаваньняў. Пасьля гэтага немцы замерваліся зрабіць новую штуку, каб адмовіцца ад выпаўненьня вэрсальскага трактату. У 1919 г. у Нямеччыне шмат якія адпавядальныя палітыкі сур'ёзна думалі аб сьвядомым бальшавіцкім пераваpоце, каб ухіліць саюзьнікаў і зьнішчыць вэрсальскі трактат. І толькі страх перад тымі зьверствамі, якія паказалі бальшавікі ў б. Расеі і тэю матар'яльнаю руінаю, якую цягне за сабой бальшавіцкі пераварот, устрымаў немцаў перад гэтаю хітраю махінацыяю. Болей цьвярозыя галасы цьвярдзілі, што лепей часова пакарыцца цяжкім варункам міру, захаваўшы гэтым эканамічны апарат і нацыянальную адзінасьць, чымся рызыкаваць руйнацыяй як таго, так і гэтага.

І з гэтае пары пачалася паступовая ліквідацыя «вэймарскае» рэспубліканскае конституцыі і аднаўленьне монархіі, ідэя якой жыве ў душы блізу што кожнага немца. У той час, як у б. Расеі ўся царская сям'я налажыла галавою, ў Нямеччыне толькі цераз год пасьля рэвалюцыі выйшла распараджэньне аб выдаленьні імпэратарскіх партрэтаў з цэнтральных дзяржаўных установаў. А ў провінцыяльных дробных установах яны знаходзяцца й дасюль. Цяпер навет няма блізу ніводнага рабочага дому (апрача хіба камуністых), ў якім ня было-б на самым пачэсным месцы партрэта кайзэра Вільгэльма з жонкаю, ня кажучы ўжо аб мяшчанскіх і буржуазных партыях, якія не пакідалі а ні на мінуту быць монархічнымі. Праўда, што й ня гэткімі гаспадарамі былі нямецкія імпэратары, як расейскія. Яны стараліся, каб шанавалі іх усе падданыя, ня выключаючы й рабочых. То-ж гэта аднаго з першых закладчыкаў Нямецкае імпэрыі Вільгэльма І было дэвізам, каб кожны немец меў магчымасьць зьесьці ў нядзельны дзень курыцу. У монархічнай Нямеччыне рабочае пытаньне было вырашана лепей, як у рэшце сьвету. Нямецкія рабочыя законы часоў Вільгэльма ІІ служаць дасюль за ўзор для шмат якіх рэспубліканскіх дзяржаваў. Дзеля гэтага няма нічога дзіўнага, што з абвешчаньнем вайны ўсе нямецкія рабочыя і навет социяль-дэмакраты падтрымлівалі палітыку імпэратарскага ўраду. Толькі невялічкая група крайніх левых социялістых на чале з Карусём Лібкнэхтам выступіла проці вайны, як у Францыі быў проці вайны Жан Жорэс. І абодва яны заплацілі за гэта жыцьцём: Жорэс напярэдадні вайны, а Лібкнэхт пасьля таго, як немцы вайну прагралі. Трэба пры гэтым ад'значыць, што ў пачатку вайны нямецкія рабочыя мелі адну социяль-дэмакратычную партыю, на чале якой стаяў Лібкнэхт, сын закладчыка гэтае партыі. І толькі ў 1916 г. социяль-дэмакратычная партыя падзялілася на дзьве часьці: правую большую часьць гэтак званых социялістых большасьці на чале з Шэйдэманам, якая й далей падтрымлівала палітыку імпэратарскага ўраду, і левую меншую часьць, гэтак званых незалежных, на чале якіх сталі Гаазэ, Дітман і інш. У гэты час Лібкнэхт, ухіліўшыся ўлева аж да камуністычных паглядаў, быў арыштованы за заклік рабочых у Бэрліне 1-га траўня 1916-га году проці вайны і быў трыманы ў вастрозе да самае рэвалюцыі. Пасьля рэвалюцыі ён адкрыта стаў на чале камуністычнае партыі і аднаго разу падчас перавозкі ў самаходзе пасьля арышту быў паздрадзецку забіты канвойнымі кавалерыйскімі салдатамі разам з вядомаю камуністкаю Рожаю Люксэмбург. Гэткім лёгкім спосабам «рэспубліканская» Нямеччына зьвольнілася ад духоўнага павадыра камуністых, як гэтак сама ад сапраўдных рэспубліканцаў Эрцбэргэра і Ратэнау, ад першага за тое толькі, што ён па ўпаважненьню ад большасьці Нацыянальнага Вэймарскага Сабраньня падпісаў Вэрсальскі трактат і ад другога за тое, што ён хацеў знайсьці шляхі паразуменьня з Францыяй. Гэтак дзеялі нямецкія нацыяналь-монархістыя ў першы час пасьля рэвалюцыі, калі пачувалі сябе ня досіць дужымі, каб адкрыта выступіць проці рэспублікі і рэспубліканцаў, будучы запалоханымі першымі ўдачамі рэвалюцыі. Але як толькі ачуняілі пасьля першых удараў рэвалюцыі і ваеннага паражэньня, пачалі энэргічную атаку проці рэспублікі. І ўжо 2—3 гады назад яны маглі папрабаваць зьвярнуць рэспубліку, калі-б не баяліся замежных няпрыемнасьцяў. Праз гэта яны выбралі болей асьцярожны, але разам з тым і болей верны спосаб дзеяньняў — парлямэнцкі. Дзякуючы энэргічнай працы, нацыяналістыя падчас перадапошніх выбараў змацніліся ў рэйхстагу блізу што ў два разы, а на апошніх выбарах умацніліся яшчэ ладаткова. Апрача таго пад гэты час аканчальна перайшоў на бок нацыяналістых Штрэзэман са сваею народнаю партыяю, аканчальна парваўшы з цэнтрам і з соц.-дэмакратамі. Гэткім чынам, нацыяналь-монархістыя захапілі ўладу ў свае рукі саўсім легальнай дарогаю, проці чаго ня могуць навет протэставаць саюзьнікі. Але перамога нямецкае рэакцыі ня была-б поўнаю, каб ня быў скінены цэнтралевы прускі ўрад Браўна, ў якім галоўную ролю граў міністар унутраных справаў Сэўэрынг. Нямеччына, як вядома, складаецца з некалькіх саюзных дзяржаваў, як Прусія, Баварыя, Вюртэмбэрг, Саксонія і г.д. Усе гэтыя дзяржавы маюць свае самастойныя парлямэнты і ўрады і агульны саюзны рэйхстаг ды ўрад рэспублікі ў Бэрліне. Але Прусія, якая якраз і аб'яднала ўсе гэтыя асобныя нямецкія часьці ў адно цэлае, грае ў гэтым саюзе галоўную ролю. Прускі ўрад мае большае значэньне ўва ўнутранай палітыцы Нямеччыны, чымся цэнтральны ўрад. І выходзіла недарэчнасьць: у агульна-нямецкім урадзе ўлада знаходзіцца ў руках нацыяналістых, а ў прускім кабінэце ўладу трымалі социяль-дэмакраты з цэнтрам. Міністар унутр. справаў Сэўэрынг быў соц.-дэмакрат. Але цяпер гэтая недарэчнасьць ухілена. Нацыяналістым удалося скінуць кабінэт Браўна і пэўна што ўдасца ім і ў Прусіі зладзіць урад з пераконаных монархістых. А затым хто ведае, чаго не начаўпе толькі «рэспубліканскі» толькі на паперы нямецкі ўрад?

*N.*

# Беларусы!

*Калі маеце дзяцей школьнага веку, дык памятайце, што да 31 сакавіка гэтага году вы павінны кожны ад сябе асобна падаць Павятоваму Школьнаму Інспэктару дэклярацыю аб жаданьні мець у вашым абводзе школу з беларускаю моваю, як выкладоваю!*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## У Польшчы.

Віцэ-прэм'ер Тугут склікаў конфэрэнцыю па справе зьвядзеньня да аднолькавасьці заканадаўства ўва ўсходніх ваяводзтвах. На конфэрэнцыі былі: прэзэс гэнэральнае пракуратуры, Букавецкі, б. міністар праф. Макоўскі і быўшы дэлегат ураду ў Вільні В. Роман. Як піша „Przegląd Warszawski“ галоўная праца ўраду йдзе цяпер над пытаньнем аб беларускім і украінскім школьніцтве.

Рада Міністраў прыняла проект закону аб чужаземцах, паводлуг якога чужаземец, катораму скончылася 14 гадоў, павінен мець асабісты дакумэнт, сьцьвярджаючы яго дзяржаўную прыналежнасьць, выданы яго

ГЭНРЫХ СЕНКЕВІЧ.

# ЛЯТАРНІК.

*(Пераклад з польскага).*

*(Глядзі № 4 (58) „Грам. Голасу“).*

## II.

Паплылі гадзіны, дні і тыдні... Матросы кажуць, што часам, калі мора было надта разбушаваўшыся, нешта кліча іх сярод ночы і цемры па прозьвішчы. Калі марская бесканечнасьць можа гэтак клікаць, дык магчыма, што як чалавек пастарэе, таксама кліча яго іншая бесканечнасьць, яшчэ больш цёмная і яшчэ больш таёмная, а чым больш чалавек жыцьцём зморany, тым мілей для яго гэтыя клічы. Але, каб іх пачуць, патрэбна цішыня. Апрача таго, старасьць любіць адасабляцца, быццам прадчуваючы магілу. Лятарня ўжо была для Скавінскага гэткаю паўдамавінаю. Няма нічога больш аднастайнага, як гэткае жыцьцё на маяку. Людзі маладыя, калі на гэта згодзяцца, дык пасьля нейкага часу кідаюць службу. Лятарнікам бывае чалавек немалады, пануры і скрытны. Калі, часам, пакідае сваю лятарню і зьяўляецца сярод людзей, ходзіць між імі, як чалавек, збудзіўшыся з глыбокага сну. На маяку няма ніякіх дробных уражаньняў, якія ў штодзенным жыцьці вучаць дапасоўваць усё да сябе. Усё, з чым лятарнік стыкаецца, вялізнае і ня мае пэўных нарысованых формаў. Неба і вада, а сярод гэтых бесканечнасьцяў самотная чалавечая душа! Тут чалавек жыве ў вечнай задуме, а з гэтае задумы нішто ня будзіць лятарніка, навет ягоная праца. Дзень падобны да дня, як дзьве пацеркі ў ражанцы, і хіба толькі перамены пагоды ўводзяць у жыцьцё нейкую рознароднасьць. Скавінскі, аднак, чуўся гэтак шчасьлівым, як ніколі ня быў у жыцьці. Уставаў ледзь золак, пасілкаваўся, чысьціў шклы лятарні, а пасьля, сеўшы на бальконе, глядзеў у марскую далячыню і яго вочы ніколі не маглі насыціцца вобразамі, якія ён перад сабой бачыў. Звычайна, на вялізным сінім фоне відаць было стада выгнутых парусаў, бліпчэўшых пад сонечнымі косамі гэтак моцна, што вочы заплюшчваліся ад ліпкі бліскучасьці; часам караблі, карыстаючыся вятрамі, якія завуцца пасатамі, ішлі выцягнутым радам адзін за адным, падобныя да стады чаек альбо альбатросаў. Чырвоныя бочкі, якія паказвалі дарогу, калыхаліся на хвалі лёгкім, мягкім рухам; між парусамі паяўлялася ўпоўдні вялізная шэраватая паласа дыму. Гэта параход з Нью-Іорку вёз падарожных і тавары да Аспайнвэль, цягнучы за сабой даўгі сьпенены шлях. З другога боку балькону бачыў Скавінскі, як на далоні, Аспайнвэль і яго рухавы порт, а ў ём лес мачтаў, чайкі і баркі; а крыху далей белыя домікі і вежы гораду. З вышыні маяка домікі былі падобны да гнёздаў птушак-чаек, лодкі да жукоў, а людзі краталіся, як маленькія пункты на белым каменным бульвары. Раніцай лёгкі, ўсходні вятрык прыносіў зьмешаны гоман чалавечага жыцьця, які пакрывалі сьвісткі параходаў. У поўдзень надыходзіла гадзіна адпачынку. Рух у порце спыняўся, чайкі хаваліся ў шчэліны скалаў, хвалі слабелі і рабіліся нейкімі лянівымі, а тады на сушы, на моры і на маяку пачыналася часіна нічым няспыняемай цішыні. Жоўты пясок, з якога адплылі хвалі, блішчэў быццам залатыя плямы на вадзяных абшарах; маяк ярка ад'значаўся на блакітным фоне. Рэкі сонечных косаў ліліся з неба на ваду, на пясок і на скалы. Тады і старога лятарніка агартала нейкая салодкая слабасьць. Ен адчуваў, што гэтыя адпачынак, якім ён карыстаецца, вельмі прыемны, а калі падумаў, што будзе трывалы, дык ужо быў зусім здаволены. Скавінскі захапліваўся ўласным шчасьцем, але, дзеля таго, што чалавек лёгка зжываецца з леп-

